Анатоль Санаценка

# ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ

*Вершы*

*Пераклады*

*Зацемкі*

Мінск
«Галіяфы»
2016

УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
С18

**Санаценка, А. К.**
С18 Вяртанне на Радзіму : вершы, пераклады, зацемкі / Анатоль Санаценка. — Мінск : Галіяфы, 2016. — 84 с.
ISBN 978-985-7140-14-5.

Анатоль Санаценка — паэт, празаік, драматург, перакладчык, рэдактар. Выдаў пяць кніг вершаў па-руску. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, беларускага ПЭН-цэнтра. Галоўны рэдактар «Бабруйскага кур'ера». Як паэт, празаік і драматург публікаваўся ў мясцовым, рэспубліканскім, а таксама расійскім друку. У 41 год стаў пісаць па-беларуску.

«Вяртанне на Радзіму» — першая кніга аўтара на беларускай мове. У ёй — пра «Радзіму, жанчыну, каханне»; пра шлях аўтара да беларушчыны; пераклады з Гіёма Апалінэра, дзед і маці якога былі з Беларусі…

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7140-14-5**


# ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ

(Замест прадмовы)

Як можна вярнуцца туды, адкуль не з'язджаў? — спытаеце вы.

Можна. Яшчэ як можна. Але трэба растлумачыць…

Усе мы з'яўляемся ахвярамі Савецкай імперыі, у ментальным хоць бы плане.

Нават тыя, хто ганарліва лічаць сябе свабоднымі людзьмі, — так бы мовіць, без «савецкай матрыцы» ў галаве, без савецкага геному ў крыві.

Лічыў і я сябе такім. Між тым мы — ахвяры. І я — таксама.

Прывяду прыклад.

Упершыню я пачуў беларускую мову толькі ў школе. Мы жылі ў «акупаваным» савецкімі войскамі Бабруйску, у цэнтры горада.

Вакол — рускамоўныя сем'і вайскоўцаў, і да іх узроўню «падцягваліся» гараджане ў першым-другім пакаленні…

Павагі да беларускай мовы не было, дзеці з ваенных сем'яў з дазволу бацькоў і адабрэння адміністрацыі школы адмаўляліся яе вывучаць.

Сітуацыя была безнадзейнай… Але… Але ў сёмым-восьмым класах — псіхалагічная проза Васіля Быкава, вершы Максіма Багдановіча, якія я, пры адсутнасці кніг паэта, перапісваў сабе ад рукі; «Вераніка», «Александрына», «Спадчына» ВІА «Песняры», — песні, якія пераварочвалі душу і рабілі яе беларускай…

Потым былі іншыя радасныя адкрыцці — ранні Купала, Колас, лірычны Панчанка; пазней — Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Арлоў, Андрэй Хадановіч, Віталь Рыжкоў…

І вось я, рускамоўны, нарэшце вярнуўся на Радзіму сваіх продкаў з іх 700-гадовым родавым гербам «Касцеша». На Радзіму мовы.

У Айчыну. У Беларусь. У Вялікае Княства Літоўскае.

Доказам — гэтыя вершы.

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ…

***

*Прысвячаецца Яўгену Васьковічу*

Жыве Беларусь — гэта кліч нашых продкаў!
Жыве Беларусь — гэта голас вякоў!
Жыве Беларусь — вымаўляць так салодка!
Жыве Беларусь — ізноў я, ізноў…

Касцеша*, Яліта** і герб наш — Пагоня,
Збірайцеся разам пад сцягам адным!
І  — слухайце сэрцам: зямля наша стогне,
У смутку жыве пад князем чужым…

Касцюшка, Кастусь, пад вашы харугвы
Я стану, як той старадаўні жаўнер.
Меч праўды — у рукі, меч волі — у рукі!
Што будзе, то будзе: тут і цяпер!

Глядзі сваім вокам: ад мора да мора
Ідуць, быццам хвалі, нашы палкі —
Праз ўсё, што было, праз пакуты і гора —
Па Волю, па Праўду! Праз годы-вякі!..

У думках малюся і Крыж уздымаю:
Няхай беражэ Бог Айчыну заўжды, —
Каб цемра не засціла роднага краю,
Каб тут не спяваліся песні бяды,

Каб ка́ты, тыраны ніколі, ніколі
Не здолелі трапіць на землі твае.
Пад зоркаю Праўды, пад зоркаю Волі,
Жыве Беларусь! Назаўсёды — жыве!

** Касцеша — герб шляхецкага роду Статкевічаў, да якога па бацьку належыць аўтар.*

*** Яліта — герб шляхецкага роду Васькевічаў (Васьковічаў).*



***

Калі я размаўляю па-беларуску,
У мае жылы ўваходзіць сама Гісторыя,
Я раблюся шляхетным — у шляхетным адзенні, —
Як таму і трэба быць,
Як і наканавана лёсам…
Шэсцьсот гадоў альбо семсот,
Усе соймы, гербы, сцягі і штандары,
Усе надзеі і летуценні,
Уся старадаўняя Літва,
Што сёння завецца Беларуссю;
Сінія Воды, Грунвальд, Ворша і Ула,
Гусоўскі, Скарына, Купала і Багдановіч, —
Усё гэта праходзіць перада мной і праз мяне,
І робіцца маёй беларускай душою…

Калі я размаўляю па-беларуску…

***

Невядома нам, што з намі будзе,
Што было — мы ведаем дакладна…
Гэта тое, што заўсёды людзям
Як святочны успамін калядны…

Праплыве ізноў перад вачыма
Летуценнем, мрояю з далечы,
Той духмяны кветнік, што, магчыма,
Зноў душу, як у дзяцінстве, лечыць…

Толькі ўспыхне ярка, нібы сімвал,
Нібы шлях паказваючы цяжкі,
Вобраз ружы, назаўсёды мілы,
Ружы майскай, ружы-казкі,

З роем пчол над ёй — і ў гэтым, мабыць,
Ёсць таксама тайны сэнс і споведзь…
Назаўседы захавае памяць,
Як сумленне, гэтую аповесць…

Так, ты можаш з’ехаць у дзяржаву,
Дзе ў пашане мужнасць, подзвіг, слава.
«Час, — ты мовіш, — дзе жа тваё джала? —
Бо ў душы Радзіма зноў паўстала…»

І не згубіш на кірма́шах свету,
Не пакінеш у руках мянялы
Гэты вобраз, як і лёс паэта,
Што не дробніцца на скрупул малы.



Праплывуць ізноў перад вачыма,
Як наяве — выпукла і бачна,
Палісад і дом той, і — уся Айчына
Праплыве ўрачыста так і значна…

Гэтай самай патаемнай былі
Немагчыма адракацца людзям…
Божа, што было, — мы перажы́лі.
Госпадзе, пан Бог, што з намі будзе?

***

Радзіма. Жанчына. Каханне.
Жанчына. Радзіма. Любоў.
З уласнай душою спатканне,
І вечны, як камень той, боль…

Жывуць у душы ўспаміны
Пра рэчку і мройны той мост,
Дзе я сустракаўся — з Радзімай,
З каханай, з сабою — наўпрост…

Дзе я ў старадаўнім адзенні, —
Каб мне на спатканне паспець —
З Айчынай, з гісторыяй, з дзевай, —
Імкнуўся скрозь памяці лес…

Радзіма, жанчына… — з любоўю,
З пяшчотай адвечнай стаю
На гэтым я мосце — і з болем, —
Што год, што стагоддзе таму…

Які гэта правільны шэраг —
Не трэба тлумачыцца мне.
І той, хто ў яго шчыра верыць, —
Жывы — і не згіне ў імгле.

Радзіма. Жанчына. Каханне —
Зноў кружыцца галава…
І чуецца ў сэрцы гуканне:
Я ваш, назаўсёды я ваш!



## ПАСВЯЧЭННЕ Ў КАХАННЕ

***

Дзявочыя вусны,
Дзявочыя вусны —
Мана і спакуса,
Мана і спакуса.

Калі б толькі ведаў,
Калі б толькі ведаў,
То іх бы не зведаў.
То не было б бедаў.

Калі б гэта ведаў —
То быў бы другі…
Жывы і шчаслівы,
Без гора-тугі…

Ў любоў, як у вір, я —
Уніз галавой —
І прывід кахання
Зноў крочыць за мной.

У вір я без думкі —
Пакуты — сцяной.
З каханнем — рахункі,
Разлікі — з тугой.

І ўсё — назаўсёды!
І ўсё — назаўжды!
Дзявочыя вусны,
Прадвеснік бяды…

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

*Чым болей сходзіць дзён, начэй,*
*Тым імя мілае вышэй.*
*М. Багдановіч*

Як Ваша і́мя вабіць, Жанна!
Чым алкаголь яно мацней!
Там Францыя глядзіць туманна;
Як палюбоўнікі, падманна,
Зліліся ў ім і Жан, і Ганна,
І іх страшыць Барталамей!

У вас вядзьмарскія ёсць чары.
Як вогнішчы яны гараць, —
І спальваюць масты і мары,
Душу выпальваючы — кара
За тое, што заўседы мала
Мне — на адлегласці кахаць.

Так, я прайшоў дарогай гэтай,
Што прама ў пекла, у нябыт…
І потым, увайшоўшы ў Лету,
Я зразумеў: па ўсіх прыкметах,
Любоў — Галгофа для паэта.
І гэта для мяне — іспыт.

Ідучы па зямной юдолі,
Я песні пазабыў свае.
Было мне дрэнна ў гэтай ролі,
Я не прыняў яе. Свавольна



Я растуліў кайданы волі —
Каханне ў сэрцы зноў жыве…

Як Ваша і́мя вабіць, Жанна!
Якое абяцанне ў ім!..
Але, на жаль, усё — падманна.
Куды падзеліся вы, панна?
Імя са мною толькі: Жанна.
А ўсё астатняе — як дым…

## ПРЫЗНАННЕ

Тое, што трымае мяне ў гэтым свеце —
Гэта твая ўсмешка,
Некалькі райскіх слоў, сказаных прыхапкам,
Але якія сталі маім гімнам,
Твой захоплены погляд,
Якім ты зірнула на мяне ў тую ноч.

І яшчэ дзве-тры рэчы,
Дзве-тры рэчы,
Але пра гэта потым,
Аб гэтым — потым…



***

Любімая гаворыць мне: «Не трэба
Са мной па-беларуску размаўляць».
А нада мною бацькаўшчыны неба, —
Па-беларуску зоркі зіхацяць.

Любімая гаворыць: «І не трэба
Нікому намаганні ўсе твае.
Бо што патрэбна людзям? — толькі хлеба,
Відовішчаў. Стаіць на гэтым свет!»

Любімая! Відаць, не той я рыцар,
Якога ты стамілася чакаць
З імглы стагоддзяў — трэба павініцца…
Але ж у мове — слоў маіх крыніца.
З яе адной магчыма мне напіцца,
Цябе —
 каханаю назваць…

## ПАРТРЭТ ДАМЫ

Тэлефанавала недарэчы.
Была занадта нервовай, каб быць шчаслівай.
Любіла наведваць буцікі і гіпермаркеты
І не любіла сур'ёзных гутарак —
Пра жыццё і смерць, і наогул…
Казала пра жаніхоў, не памятаючы пра Адысея.
Шукала тое, чаго няма ў гэтым свеце.
Змаўкала надоўга,
І ў паўзах чуліся спевы маёй душы.
Вось партрэт маёй дамы.
І я кахаў яе…



***

Я адзін з тых, хто вярнуўся з вайны
Пад назваю Каханне.
Доктар Воля мне выразаў душу
І ўставіў жалезнае сэрца.
Нас няшмат засталося — тых, хто выжыў
І не звар'яцеў.
І мы складаем нябачнае братэрства
Разбітых сэрцаў.

Я — апостал кахання,
Якое было няшчасным,
Прадаўжальнік вучэння,
Што было заснавана Арфеем,
Які першым спусціўся ў пекла
(А пасля ўжо мы).
Я пашырыў гэта вучэнне,
Унёс свае дапаўненні,
І ў пасланні дадзеным
Яго запаведзі перадаю.

Ну, па-першае, будзь з жанчынаю ты асцярожны.
Помні: жанчына — заўжды небяспека,
Ад яе непрыемнасці ўсё.
Па-другое, беражы сваё сэрца
Ад чароўных зладзеек:
Страціш — ужо ніколі не вернеш.
Па-трэцяе,
калі ты ўсё ж закахаўся,
Нягледзячы на папярэджанне і г. д. —

Будзь гатовы і да знаходжання ў палоне,
І да адступлення ўглыб
сваёй душы —
На запасныя пазіцыі,
Аб якіх ты павінен падумаць загадзя…

Забівацца бессэнсоўна.
Лепш забіць гэтае пачуццё,
Хлараформам непрытомнасці яго ўсыпіць.
Лепш ужо так, чым загінуць назаўсёды.
Або — што горш —
Пагрузіцца ў прыватнае заўчаснае пекла,
З якога выйсця няма…



## БОГ ЗАХОЎВАЕ ЎСЁ

***

Эфект матылька.
Лёгкі пырх па-над сэнсам,
Па-над агіднымі рукамі цырульніка.

Жыццё заканчваецца нечакана-негадана.
Ці ўбачым мы святло ў канцы тунэля?

Трэба паспець зрабіць гэта, трэба паспець…

Бог захоўвае ўсё.

На адлегласці рукі,
На адлегласці памяці…

## ТЭЛЕФОН

У поўнач выйдзеш. Змрок бяззорны
Цябе абступіць, павядзе.
І розум табе скажа: «Позна»,
А пачуццё не павярне…

І пройдзеш ты скрозь тыя аркі
Пачвараў — яшчараў — дамоў,
Турбуючыся: толькі б Паркі
У жылах не спынілі кроў…

Каб атрымалася заблытаць
Свой лёс, як нітку Паркаў тых.
Яшчэ пажыць, прайсці іспыты,
Забыць усё… але не іх…

Увасабленнем пратэстанцтва
На чорнай плошчы ты стаіш.
І можа стацца, можа стацца
Яе ты ўсё ж перабяжыш.

І бліснe там святлом няяркім,
Як успамін найдарагі,
Той тэлефон насценны ў арцы…
Ты да яго — праз змрок тугі…

Павінен гэты дыск круціцца
Вакол восі, вакол восі.
І ўсё, што ёсць, і ўсё, што *быццам* —
Ў даніну моўчкі паднясі.



Аплату прагна прыме зумер
Срэбралюбівы, як Харон, —
І ўсіх, хто жыў, і ўсіх, хто ў думках, —
Пакліча гэты тэлефон…

## АДЗІН ДЗЕНЬ

Дзень пачынаўся з агульна-філасофскіх клопатаў,
З разважанняў пра сэнс існавання і г. д.
Паміраць яшчэ не хацелася. Жыць, увогуле, таксама.
Канчатковае рашэнне адкладалася,
Прынамсі, да вечара.
Зрэшты, няважна…

Спіс спраў, чарада працэдур,
Гульня ў хованкі з часам.
Зацягванне безвыходнасці.
Не вельмі і хацелася…

Выйсці з дому, ступіць на вар'яцкі карабель,
Што праплывае па буднях, праплывае па буднях
З табой на карме, —
Гэта подзвіг, годны старажытных герояў.

У пэўным сэнсе мы ўсе Адысеі.

Каб патрапіць на месца, патрабуецца 20 хвілін.
За гэты час душа здзяйсняе кругасветнае падарожжа
Па акіянах рэфлексіі.

Добры дзень, метафізіка!

«Вы будзеце гарбату ці каву?»

«Дазвольце расказаць вам пра свае праблемы».



«Я сёння дрэнна спаў — сніліся благія сны».

«Гэтая тэма, годная першай паласы.
Папрацуйце над ёй добра…»

«Падвойнае забойства»; «Рака выйшла з берагоў»;
«Правальны год для эканомікі» —
Вось загалоўкі будучых артыкулаў, што выйдуць у газеце.

А як жа паэзія?

«Вы што хочаце гэтым сказаць?»

«Прыходзьце заўтра пасля дванаццаці».

«Гэта мы абмяркуем на планёрцы».

«Падрыхтуйце вашыя пытанні».

А як жа паэзія?

Паэзія, як заўсёды, ні пры чым.
Зрэшты, як і ўся астатняя літаратура,
З яе прозай і драматургіяй.

«Так і жывем, mon cher ami. Так і жывем».

«Сустрэнемся ў бары а 18.00».

«Мне раптам стала так самотна,
Вырашыла патэлефанаваць табе».

«На вуліцы Кветкавай адчыніўся буцік».
«Ты прыйдзеш сёння вечарам? Я спяку шарлотку».

«Да гэтага артыкула патрэбныя каментары».

«Ты заўсёды са мной халодны, замкнёны і сухі».
«Я стамілася ад усяго гэтага».

«Пачатак зрабіце больш экспрэсіўным,
Каб утрымаць чытача…»

«Мне не хапае тваёй увагі…»

«Не, так не падыходзіць, — перарабіце зачын і канцоўку».

«Я ўжо шкадую, што сустрэлася з табой…»

Ты адключаеш мабільную сувязь,
Таму што гэта ўжо занадта.
Ва ўсякім выпадку, лакальныя катастрофы
І парывы адносін
Не ўваходзілі ў твае бягучыя планы,
Якія ты старанна пазначаеш у штодзённіку.

Дзень памірае. Агаворка па Фройду.
Чутны шоргат у пясочным гадзінніку.
Ліміт твайго часу вычарпаны.

Ты выключаеш святло, замыкаеш усе дзверы,
І гэта падобна на сімвал,
Пра што не хочацца думаць.



Між тым, дарога дадому — таксама метафара.

Уздрыгваючы ў канвульсіях, ліфт
Падымае цябе ўверх, у твой хатні Аід.
Ты маўчыш,
Утаропіўшыся ў сцяну…

***

А што вось потым, што вось — потым?
Быць можа, што й апошні подых.
Быць можа, што — канец, пустэча,
Ні з кім, ні з чым (ні дзе!) сустрэча.

Пакута, апусцелы дом…
А што вось — потым?

Што вось — потым?..



***

Правіцелі лезуць на троны,
Каб вечна на іх заставацца.
Ты моцна ў жанчыну ўлюбёны,
Штодзень ад пакут каб хістацца.

Усё неяк дваіста ў жыцці,
У гэтай цудоўной краіне…
І лёс наш такі — каб ісці
Пад маршы new-хунвейбінаў…

***

Не падымаецца рука,
Каб лоб перахрысціць.
Ў душы — сусветная туга,
Ў жыцці — сусветная туга, —
Што ж, так таму і быць.

Вядома, можна ж абурыцца,
І з лёсам шчэ разок пабіцца,
Сябе ізноў пераадолець…
А што ў асадку? Смерць прыходзіць…



***

Безумоўна, драматычна:
Ўсё спазнаўшы, пакутую;
Непрыстойна так, публічна,
Я дарма свой час марную.

Толькі ўсё ж па-над пустэчай,
У тым ліку і маёю,
Штосьці вее з даль-далечы —
І — узносіць над зямлёю…

***

Кожная хвіліна — гэта боль…
Як жа гэта так? — дазволь.
Хіба гэтага чакалі,
Можа, дрэнныя квіткі нам далі?..
Хочацца сказаць: «Адбой».

Моўчкі мы сядзім, як на вакзале.
Кожная хвіліна — гэта боль…



***

Ты жыў у доме ў нуды,
Сілкуючыся ў шкадавання,
І зразумеў, што быў дурны:
Шукаў не там выратавання.

У рэчку двойчы не ўступіць —
Пачуццям так няма вяртання…
Далей, як жыў, патрэбна жыць
Не думаючы пра расстанне…

Жыць, нібы тая трын-трава,
І гадаваць сваё мастацтва, —
Каб не балела галава,
Каб не было ў душы вар’яцтва…

***

*Тьмы низких истин нам дороже*
*Нас возвышающий обман.*
*А. С. Пушкін*

На нізкіх ісцін п’едэстал
Узвёў сваё жыццё я,
Ды разумнейшым сам не стаў, —
Так, усвядоміў тое-сёе.

І вось цяпер сяджу без думкі.
У попельніцы — недакуркі.
І цямлю: зноў папіць гарбаты,
Зрабіць тым самым сабе свята?..



***

Усё спазнаецца ў параўнанні,
Усё, нават смерць.
Пачуцці і разважанні,
Золата, медзь.

Лад дзяржаўны і мэта,
Памяць і забыццё.
Вакуум, таксама — паветра,
Смерць — і вось — быццё…

Зноў паўтараю я тое ж,
Тое, што толькі сказаў…
Што ж, калі так, — дзякуй, Божа, —
Трэба мне крочыць назад.

Смерць («Недатыкальна!») —
З чым яе параўнаць?
Хто з ёй пайшоў на спатканне, —
Не мне іх сюды вяртаць.

Каб запытаць: што там? як там?
Дрэнна ці добра там?
Верым мы бачным фактам, —
Не летуценным снам.

Вечнае выключэнне, —
Не дакранацца, не смець! —
Смерць — прашу прабачэння, —
Смерць — гэта смерць.

***

З мінулага стагоддзя вершы,
З класічнага стагоддзя — пешшу,
Праз памяць, праз мяне — наўпрост —
Яны не скардзяцца на лёс.

Растуць сабе — аб гэтым сказана…
У думках — збольшага выразныя,
Яны жывуць тут, як і ўсе…
І вершы гэтыя — мае…



## ПЕСНІ СМУТКУ І ЖАЛЮ

## 1.

Быў я малады і шчаслівы я быў…
Ах, жыццё маё маладое, дзе ты?
Куды падзелася, дзе страцілася?
За якія горы зайшло, закацілася,
У якіх балотах патанула, загінула?

Быў я малады і шчаслівы я быў…
Ах, жыццё маё маладое, дзе ты?
Здаецца, й няма мяне на свеце:
Там, дзе была хата — лес густы;
Там, дзе была радасць — туга і журбота.

Быў я малады і шчаслівы я быў…
Ах, жыццё маё маладое, дзе ты?
Дзе любоў мая, маё каханне,
Мой боль, мая туга невыносная,
Мая ластаўка, мой рамонак?..

Ты пайшла ад мяне ў лепшы свет,
Куды мяне пакуль не бяруць, не пускаюць.
Цяпер душа твая — вольны вецер,
Валасы — трава, вочы — неба,
А цела — зямля…

Быў я малады і шчаслівы я быў…
Ах, жыццё маё маладое, дзе ты?

**2.**

Як мой сынок па полі хадзіў,
Па полі ды па лужку,
Басанож хадзіў, карагод вадзіў —
Па полі ды па лужку.
Ой, шчасце маё, шчасце.

Як мой сынок зямлю араў,
Зямлю араў, коніка паганяў.
А стаміўся — да дрэва прытуліўся,
Вадзіцы з крынічанькі напіўся…
Ой, шчасце маё, шчасце.

Як мой сынок ва ўзрост увайшоў,
Ва ўзрост увайшоў, дзяўчыну знайшоў,
Шлюбам пабраўся, ажаніўся.
Ажаніўся, радасці напіўся…
Ой, шчасце маё, шчасце.

Як забралі майго сына ў маскалі,
Ды ў войска, што ў свету на краі.
Маскалі вайну ў тым краі зрабілі,
І сынка майго на той вайне забілі…
Ой, гора маё, гора…



## ІРАНІЧНЫЯ ВЕРШЫ

## ЖАРТАЧКІ ПРА СЯБЕ І ПРА ІНШЫХ

### 1.

Па ўсім відаць, складана я
Ўжо так уладкаваны,
Што, так бы мовіць, і быццям,
І слоў не трачу марна.

Калі ж я гутарку вяду,
Аб чымсьці разважаю,
То, суразмоўцу на бяду,
Сябе не заўважаю.

Здаецца мне: вось-вось ужо
Галоўнае скажу я.
Гляджу — дамоў усе даўно
Пайшлі, а я не чую!

### 2.

Пра ўсё — пра тое і аб гэтым,
І зноў без аніякай мэты,
Сустрэўшыся, пагаварылі,
Дарэмна толькі час згубілі…

І вось здаецца, што ніколі
Мы ў гэтае не ступім кола…

Але ўсё ж думаеш: а раптам
Бы ў дэжавю, сюды мы трапім?

І вось тады, тады ізноў
Мільён мы нагаворым слоў!

**3.**

Трэ з’ехаць з глузду, каб адбыцца.
Ты гэтага не ведаў быццам?
Вось у каго не ўсе ўжо дома,
Хто звар’яцеў — таму вядома.

Свой лёс на кон паставіць трэба,
Пачварай стаць на гэтай глебе.
Як Лужын* — што ў абароне
Жыццё прайграў — без забабонаў…

**Лужын — герой рамана Уладзіміра Набокава «Абарона Лужына».*



## САМАЭПІГРАМА

Няма мяне ў літаратуры,
Няма дзе-небудзь у жыцці.
Што гэта? Смерць усёй культуры?
Не — цяжкасці ў развіцці…

**БЕЛАРУСКАЯ «ЗАСТОЛЬНАЯ»**

(Амаль фальклор)

Патрэбна гнаць у шыю камуністаў,
Каб больш яны не ганьбілі жыццё,
Каб на зямлі было спакойна, чыста, —
Вось як тады — у тысча дзевяцьсот…

Залезлі ў дрыгву — «людзі на балоце»,
Залезлі — і стагоддзі там маўчым.
Але з надзеямі за намі сочаць
Кастусь, Касцюшка й Слуцкі збройны чын…

З часоў яшчэ Крывавага патопу
То вось маскаль да нас, то — камуніст…
Еўропа мы, і будзем мы з Еўропай, —
Няхай шалее злосны маскавіт…

Так, трэ зрабіць усё ўрачыста, —
Па Бібліі — і скінуць ўжо ярмо…
Патрэбна гнаць у шыю камуністаў,
За сто гадоў незразумела мо?



**Удакладненне ад аўтара.** У гэтага жартаўлівага верша насамрэч сур'ёзная аснова. Не трэба быць глыбокім філосафам накшталт Бярдзяева («Духі рускай рэвалюцыі»), каб пабачыць: «савецкія» камуністы і «камсамольцы», якія не паспелі стаць камуністамі, — з гаркамаў, райкамаў, з арміі, міліцыі і КДБ — нікуды не дзеліся, — як сядзелі ва ўладзе, так і сядзяць (трэба толькі зазірнуць у іх біяграфіі). У гэтым — сутнасць.

**P. S.** З іншага боку, «камуніст» тут з'яўляецца сімвалам усяго таго адмоўнага, што засталося нам з часоў Расійскай імперыі і СССР.

***

На пераломе дзвюх эпох
Да вечнасці ты прытуліўся, —
Хвіліну пастаяць так змог,
Бо цяжка, ледзь не заваліўся.

І сёння забыцця настой
Ты п'еш па кроплі, нібы лекі.
І гэты якасны напой
За ўсе напоі ў свеце лепей!



***

З рэпарцёрскім запалам
І тым часам ў журбе,
Я пішу занядбана,
Насамрэч — пра сябе:

Размяняў на манеты
Ты чароўны свой дар.
Ні багацця, ні мэты —
Так, малы ганарар…

***

— Быў чалавек — пайшоў да Бога.
Што засталося тут? Нічога.
— Як гэта так? Пражыў ён многа…
Няўжо і сапраўды — нічога?
— Так, сапраўды, на жаль, — нічога.
Быў чалавек — пайшоў да Бога.



## ПЕРАКЛАДЫ

***

Паляцела мая любоў
У суседнюю вёску ў дождж
Без мяне сышла збегла ізноў
Каб з другім там патанчыць пад дождж
У жанчын хлусня замест слоў

***

Я больш не ведаю ці я люблю яе
Ці гэта проста мой зімовы грэх
У небе дождж я ў паліто ў кашнэ
Не не любоў а толькі рэха
Мае каханні гінуць праз мяне



**АНІ**

На ўзбярэжжы Тэхаса
Па дарозе з порта Мабіл на Галвестон
Ёсць вялікі сад які ўвесь у ружах
У ім схавалася віла ружам у тон
Што сама на ружу падобная дужа

Вельмі часта жанчыну адну
У гэтым садзе я бачу
І калі я міма іду
То сустрэцца з ёй поглядам мне
Гэта такая ўдача

А паколькі яна менанітка
Ані ў сэрцы яе ані ў адзенні
Без усялякай надзеі
Няма гузікаў менавіта
Два з іх згубіў невядома дзе я
Мы адзінай веры з вамі лэдзі

**ГАТЭЛЬ**

Пакоі ўдóвы
Кожны сам за сябе
Не важна хто вы
Аплату бярэм

Месье ў сумневах
Ці заплачý
На грошы спадзева
Хачу не хачу

Там шум экіпажаў
А тут вось а тут
Сусед мой усё паліць
Англійскі тытунь

Кульгае ён быццам
Мадам Лавальер*
Яму ўсё не спіцца
А мне што цяпер

Усе разам жывем тут
Такі Вавілон
І з кожнага рэнта
І ў кожным бурбон



Зачынім усе дзверы
У вежы любві
Хто верыў хто верыў
Каханы жывы

** Луіза дэ Лавальер — палюбоўніца Людовіка XIV, якая кульгала пры хадзе.*

## КЛАТЫЛЬДА

Анемон і Каламбіна
Расцвілі ў садзе тваім
Там дзе спіць туга нявінна
Між любоўю і пагардай
Нібы сіні дым
Сіні дым

Існуюць таксама нашы цені
Толькі прыйдзе ноч
Прыйдзе ноч
Разам з сонцам у адно імгненне
Цені знікнуць ты за імі кроч
За імі кроч

Косы німф азёрных як струмені
З іх прыгожых твараў льюцца ўніз
Льюцца ўніз
Ты прайсці павінен у імкненні
За прыўкрасным ценем ў парадыз
Ў парадыз



## РАЗВІТАННЕ

І сарваў я галінку верасу
Бачыш мертвая восень вакол
На зямлі мы ўжо не сустрэнемся
Вось пах часу пах верасня верасу
Я чакаю ў суквецці вякоў

## МОСТ МІРАБО

Пад мостам Мірабó ціха Сена імкне
Як дарэчы і наша каханне
Усё ж павінен ты помніць у гэтай імгле
Як і гора заўсёды радасць ільне

Дні ідуць не сыходзіць ноч
Ці стой тут ці наперад кроч

Тварам да твару стаім рука ў руцэ
Пакуль пад мостам з нашых рук
Вечныя хвалі Сена цячэ
Лёс наш стаміўшыся тчэ ўсё і тчэ

Дні ідуць не сыходзіць ноч
Ці стой тут ці наперад кроч

Любоў жыве як гэта вада
Жыццё ідзе паўз мяне
І як павольна яго хада
Была надзея а сёння бяда

Дні ідуць не сыходзіць ноч
Ці стой тут ці наперад кроч

Прывядзіце дні і тыдні назад
Але ж час што мінуў не вярнуць
Як і наша каханне няма больш дат
І патокі Сены над намі і пад



Дні ідуць не сыходзіць ноч
Ці стой тут ці наперад кроч

** Славуты французскі паэт Гіём Апалінэр (1880–1918) паходзіў з беларускага шляхетнага роду Кастравіцкіх. Яго маці Анжаліка Кастравіцкая была дачкой штабс-капітана расійскага войска Міхала-Апалінарыя Кастравіцкага, які ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года. Родавы маёнтак Кастравіцкіх Дарожкавічы (Навагрудчына) быў канфіскаваны пасля паўстання расійскім урадам. Дзед Апалінэра з сям'ёй эміграваў у Італію, дзе і нарадзіўся Апалінэр і дзе прайшло яго дзяцінства.*

## Я НАРАДЗІЎСЯ…

Я нарадзіўся ва ўсходняй Беларусі, у Бабруйску, дзе нельга было пачуць беларускую мову. Дзе раніцай, выйшаўшы ў горад, хутчэй за ўсё мог убачыць савецкіх вайскоўцаў, чым аўтэнтычных беларусаў.

І дзеці гэтых самых савецкіх ваенных афіцыйна вызваляліся ў школе ад вывучэння беларускай мовы…

Таму руская мова і культура тут валадарылі. І ніхто пра гэта асабліва не задумваўся…

Між тым беларушчына — сваё, нацыянальнае, — уваходзіла ў маю свядомасць праз літаратуру: у 15 гадоў я палюбіў вершы Максіма Багдановіча; потым былі Янка Купала, Пімен Панчанка, Леанід Дранько-Майсюк…

Шмат гадоў, быўшы кніжнікам, беспаспяхова чакаў, калі ж у мясцовыя кнігарні прывязуць «Вянок» Багдановіча.

Не дачакаўся…

Купіў — ужо збор яго твораў — у музеі яго імя, у Мінску, праз 25 гадоў пасля гэтага…

І вось калі кнігі Багдановіча з’явіліся ў маёй бібліятэцы, я сам стаў пісаць па-беларуску.

Значыць, пошук, мае памкненні былі не выпадковымі…

Значыць, усе гэтыя гады мяне вяла зорка Максіма Багдановіча.

І я — нарадзіўся…



## МОЙ БАГДАНОВІЧ

Кнігі для мяне — святое. Так заўсёды было. Ніколі не рваў іх — нават у раннім дзяцінстве.
Але ўсё ж аднойчы…

Гэта быў 1985 год. Восьмы клас. Я ўжо пісаў вершы — рускамоўныя, бо іначай тады, здаецца, і быць не магло.

Але ў восьмым класе на ўроках белліту мы праходзілі творчасць Максіма Багдановіча: «Санет» («Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…»), «Слуцкія ткачыхі», «Раманс» («Зорка Венера ўзышла над зямлёю…») і г. д.

Ужо тады я адчуў моц гэтага паэта, які — па маім тагачасным разуменні — быў адзінокім паслом Беларусі ў Еўропу…

Прачытанага ў падручніку беларускай літаратуры мне не хапіла, я стаў шукаць іншыя ягоныя вершы, яго кнігі… Але ў продажы іх не было. Толькі — у перакладзе на рускую мову. А пра інтэрнэт тады ніхто і не чуў…

Але я так закахаўся ў вершы Максіма, што мне не хацелася з імі расставацца.

Быў месяц травень, я сыходзіў са школы — паступаў у Мастацкае вучылішча, трэба было здаваць кнігі назад — савецкай дзяржаве.

І вось, перад іх здачай я вырваў з падручніка беларускай літаратуры дзве старонкі з вершамі Максіма.

Вырваў у савецкай улады свайго Багдановіча, забраў з сабой, — панёс ягоныя вершы па сваім жыцці…



## ПРАДЗЕД МАЙГО ПРАДЗЕДА ЖЫЎ У ВКЛ

Калі браць па бацьку, па ягонай маці, — мае прадзеды былі з роду Статкевічаў.

І было іх шасцёра. Шасцёра братоў. Нарадзіліся яны — па маіх падліках — у 60-я гады 19-га стагоддзя (мой родны прадзед — у 1869 г.). І можна з некаторай доляй упэўненасці сказаць, што яны яшчэ заспелі свайго дзеда, а можа, і прадзеда, які падлеткам, мяркую, жыў у Вялікім Княстве Літоўскім. І які мог многае ім расказаць аб тым часе…

Гэта значыць, у іх сям'і маглі быць не толькі паданні (як у іншых шляхетных сем'ях), але і жывыя сведчанні пра ВКЛ!..

Статкевічы былі, відавочна, зарыентаваныя не на Пецярбург, не на Усход, а на Захад — Вільню, Варшаву. Відавочна, былі людзьмі заходняй культуры і светапогляду.

Далей мне вядома толькі тое, што яны ўсе (усе шасцёра братоў) з'ехалі ў Царства Польскае. Там яшчэ заставаліся сляды, дыханне ВКЛ, Рэчы Паспалітай…

Праз нейкую колькасць гадоў мой прадзед Фёдар Статкевіч вярнуўся назад — да старога бацькі. У яго пад Бабруйскам была свая смалярня, відаць, жыў ён нядрэнна.

Жонка Фёдара Статкевіча памерла, засталася маленькая дачка. З ёй і вярнуўся ў «родавыя» Пабокавічы.

Працаваў — спачатку ляснічым, потым механікам на заводзе пад Бабруйскам.

У сорак гадоў — зноў ажаніўся. У іх з маладой жонкай Агаф'яй Дрозд нарадзілася яшчэ пацёра дзяцей: два сыны і тры дачкі — мая бабуля і стрыечныя дзядулі і бабулі.

Часы пачыналіся людаедскія, у 24-м годзе дзед Фёдар хацеў паехаць назад — да сваіх братоў, у Польскую рэспубліку. Але — межы ўжо былі перакрытыя, з'язджаць не дазвалялі… Мабыць, хутка перапынілася і перапіска. Лістоў, адрасоў — не захавалася, і да гэтага часу невядома, дзе жывуць мае «польскія» сваякі, і колькі іх…

Але бальшавікі не дабраліся да маіх продкаў. Не паспелі. Яны — спачатку прабабуля Агаф'я, у 1927 годзе, а потым і прадзед Фёдар, у 1934 годзе, — «збеглі» ад іх, памерлі ад сухотаў, што лютавалі тады ў тых краях…

Ад іх, продкаў па лініі Статкевічаў, мне засталося імя па бацьку — Казіміравіч, і — «ганарлівая кроў», што вядзе мяне па жыцці…



**КАРЭНІШЧА НАРОДА**

…І зноў, як і 200 гадоў таму, усходняя імперыя і яе «прыхільнікі» хочуць ментальна, ідэалагічна заняволіць гэты народ.

Прывязаць яго да сябе намёртва.

У краіне знішчаецца, душыцца ўсё жывое, усё, што дыхае і развіваецца — грамадзянская супольнасць, незалежныя палітыкі, журналісты, СМІ…

Знішчаюцца ўсе пачынанні, усе ідэі, мэта якіх — сапраўдная, не на паперы, незалежнасць.

Але ў «іх» нічога не атрымаецца.

Але яны прайграюць.

Немінуча.

Пакольркі карэнішча народа праходзіць па ўсёй зямлі беларускай.

Яго — ні выкарчаваць, ні знішчыць.

І мінулыя 200 гадоў — таму доказ…

## СПІС КЛІА

Памятаю адну з газет узору 1992 года: спіс новых кіраўнікоў краін СНД, з біяграфіямі. Аптымістычны такі агульны іх фотаздымак…

Мы ўсе тады таксама былі маладымі аптымістамі. Лёгка верылася, што ўсё будзе добра, вось і новыя лідары — зарука таму…

А потым пачалося… Пачаўся «парад дыктатур», хуценька паспелых у краінах былога СССР.

І лідары, якімі мы «захапляліся», усё яшчэ сядзяць (калі не памерлі) на сваіх месцах і цяпер.

Сядзяць і не збіраюцца злазіць.

А некаторыя нават шчыра паверылі ў тое, што яны і народжаныя на гэтым месцы, ці — для гэтага месца…

Прэзідэнтамі не становяцца, кажуць яны, прэзідэнтамі нараджаюцца.

І чаму гэта мадам Кліа (не блытаць з Кліко, гэта іншая гісторыя) так насміхаецца над намі?..

**ЗМЕСТ**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Санаценка** Анатоль Казіміравіч

ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ
Вершы. Пераклады. Зацемкі

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар *Міхась Скобла*
Дызайн *Яўгенія Багдановіч*
Вёрстка *Валерыя Шкляр*
Карэктар *Лізавета Таран*

*У афармленні кнігі выкарыстаны малюнак Язэпа Драздовіча*

Падпісана да друку 27.04.2016. Фармат 84×108/32.
Друк афсетны. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 4,41. Ул.-выд. арк. 1,54.
Наклад 200 ас. Замова

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Галіяфы».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/48 ад 03.10.2013.
Пр. Партызанскі, 77А, 220107, Мінск.
E-mail: vish@bk.ru
www.halijafy.by

ТДА «НоваПрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, корп. 4, каб. 10, 220138, Мінск.